# СВАБОДА

№37 4 — 10 кастрычніка 1994 г.

Кошт 50 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец
«Газэта СВАБОДА», Ltd.

Наклад 50 000



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56

Тэл. 36-24-41




## Заданьне выканана?

**Як паведаміла агенцтва «Інтэрфакс», чацьвёра вядомых беларускіх палітыкаў зьвярталіся ў расейскае пасольства ў Менску, каб высьветліць магчымасьць атрыманьня расейскага грамадзянства.**

«Інтэрфакс» паведаміў, што адным з тых, хто зьвярнуўся з запытам, быў лідар парляманцкай фракцыі «Беларусь» Генадзь Казлоў. Сам сп.Казлоў не пацьвердзіў, але і не адмаўляў гэтай інфармацыі.

## Чуркін паехаў служыць у Расею

**Агенцтва СІМ паведамляе, што былы першы намесьнік міністра абароны Беларусі генэрал-лейтэнант Мікалай Чуркін перайшоў на службу ва Ўзброеныя сілы Расеі.**

Генэрал Чуркін атрымаў даволі салідную пасаду начальніка штаба, праўда, ня надта прэстыжнай Забайкальскай вайсковай акругі.

## Дамова пададзеная ў амэрыканскі Сэнат

Біл Клінтан падаў у Сэнат для ратыфікацыі праект двухбаковай дамовы паміж ЗША і Беларусяй аб інвэстыцыях — паведамляе *Daily Report For Executives*.

# Масква турбуецца пра „русскоязычное меньшинство“ ў Беларусі

**Міністэрства замежных справаў Беларусі атрымала з МЗС Расеі новы варыянт Дамовы аб добрасуседзтве і супрацоўніцтве, якую мяркуецца падпісаць падчас візыту прэзыдэнта Ельцына ў Менск (дата пакуль не вызначана).**

У новым праекце Дамовы зьявіўся досыць цікавы 18-ты артыкул (цытуем на мове арыгіналу): *«Каждая из Договаривающихся Сторон гарантирует лицам, принадлежащим к русскоязычному меньшинству в Республике Беларусь и белорусскому меньшинству в РФ право индивидуально или коллективно свободно выражать, сохранять и развивать свою этническую, языковую, культурную и религиозную самобытность, не подвергаясь каким-либо попыткам ассимиляции вопреки своей воле»*. Камэнтар, як кажуць, не патрэбен.

Зьявілася таксама новая рэдакцыя 10-га артыкулу: *«Договаривающиеся Стороны будут обеспечивать свободный транзит лиц, грузов, транспортных средств через территории друг друга без взимания таможенных пошлин, налогов, транзитных и других сборов, установленных в отношении транзита»*.

Беларускі бок пакуль ніяк не адрэагаваў на новыя прапановы Расеі.

Пятро ПАНКРАТОВІЧ

## Крадзяжы, разбой, забойствы — усё няўхільна расьце

**За восем месяцаў 1994 г. у Беларусі было ўчынена 75,5 тыс. злачынстваў, што на дзесяць тысячаў больш за адпаведны леташні паказчык.**

Пра гэта паведаміў міністар унутраных справаў Юрый Захаранка на прэс-канфэрэнцыі 30 верасьня. 70 працэнтаў усіх злачынстваў носяць карысьлівы характар. Асаблівую трывогу выклікаюць разбойныя напады, колькасьць якіх пастаянна расьце. Каля 27 тыс. злачынстваў — крадзяжы асабістай маёмасьці.

За восем месяцаў у Беларусі загінула 7603 чалавекі, зь іх у выніку злачынных дзеяньняў — 1402. 1862 грамадзяніна скончылі жыцьцё самагубствам. Гэтыя лічбы сьведчаць, што нашае грамадзтва сацыяльна хворае, сказаў Ю.Захаранка.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ



## Беларускі пасол падазраецца ў махінацыях

**Найбуйнейшая швайцарская газэта «Ное Цюрхер цайтунг» паведаміла нядаўна пра сумнеўную дзейнасьць беларускага пасла Анатоля Мардовіча.**

Ён праславіўся тым, што не заплаціў швайцарскім фірмам за рамонт пасольскага будынка. Акрамя таго, Анатоля Мардовіча падазраюць у махінацыях.

*(Падрабязнасьці чытайце на стар. 5: «Скандал вакол пасла».)*

## «Газпром» патрабуе расплаціцца

**Расейскае акцыянэрнае таварыства «Газпром» настойвае на неадкладнай выплаце запазычанасьці за газ.**

На сёньняшні дзень Беларусь завінавацілася расейскім пастаўшчыкам 900 мільярдаў расейскіх рублёў; бягучыя пастаўкі аплочваюцца на 70-75 працэнтаў. Між тым, пастаўкі газу пакуль працягваюцца.

## Багданкевіч паехаў на тыдзень у Мадрыд

**2 кастрычніка старшыня Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч адправіўся на тыдзень у Мадрыд для ўдзелу ў штогадовым сходзе Міжнароднага валютнага фонду і Сусьветнага банку.**

Падчас гэтага візыту сп. Багданкевіч правядзе таксама перамовы з МВФ аб атрыманьні крэдыту «STAND BY».

У інтэрвію карэспандэнту агенцтва *СІМ* Станіслаў Багданкевіч сказаў, што пытаньне падтрымкі Міжнародным валютным фондам беларускіх рэформаў „у прынцыпе вырашана“. Гаворка можа ісьці толькі пра ступень фінансавай дапамогі. Са словаў сп. Багданкевіча, Беларусь у кожным разе атрымае другую частку крэдыту CTF (Фонд сыстэмных трансфармацыяў) у памеры 100 млн. даляраў. «Але мы б хацелі атрымаць крэдыт STAND BY, прызначаны для падтрымкі нацыянальнай валюты», — сказаў шэф Нацбанку. Зь яговых словаў, першая частка крэдыту можа скласьці 200 млн. даляраў, другая — гэтульні ж.

Кіраўнік НББ адзначыў, што беларускі ўрад павінен выступіць з заявай аб эканамічнай праграме, якую пасьля разгледзіць МВФ. Зараз пазыцыі ўзгадняюцца. Са словаў сп.Багданкевіча, Міжнародны валютны фонд выстаўляе занадта жорсткія ўмовы. У прыватнасьці, прадстаўнікі МВФ настойваюць, каб Беларусь узяла за мэту зьнізіць інфляцыю да канца 1995 года да 1% у месяц. Галоўны банкір лічыць гэтую лічбу нерэальнаю. Ён прапануе МВФ зафіксаваць у дакумантах 5-працэнтавы ўзровень інфляцыі на канец наступнага году. Шэф НББ паведаміў, што «некаторыя палажэньні, магчыма, будуць урэгуляваныя падчас візыту ў Мадрыд».

СІМ

## Халеру прывёз?

**У Віцебску прынята рашэньне рэгістраваць усіх, хто вяртаецца ў горад з-за мяжы, а асабліва з рэгіёнаў, неспрыяльных на халеру.**

На гэтым настаялі спэцыялісты гарадзкога цэнтру гігіены і эпідэміялёгіі.

БелаПАН

## Прыемная навіна: СВАБОДЫ ўсё больш

Тым часам, як афіцыйная прэса ўжо другі квартал запар страчвае сваіх падпісчыкаў, газэта СВАБОДА набывае ўсё больш новых чытачоў.

Нам прыемна паведаміць, што на IV-ты квартал падпіска на СВАБОДУ павялічылася на 34%. У выніку наклад газэты вырас да 50 тысяч экз. (у пачатку года мы друкавалі 20 тыс.). З гэтай прычыны віншуем усіх нашых даўніх і новых чытачоў. Вы зрабілі слушны выбар!

*Для тых, хто не пасьпеў падпісацца на газэту СВАБОДА, паведамляем, што падпіска працягваецца. Аформіць яе можна ў любым паштовым аддзяленьні. Наш падпісны індэкс 63887.*

## Над шэфам ПРІФа згушчаюцца хмары

**Не шанцуе апошнім часам ПРІФу — Першаму рэспубліканскаму інвэстыцыйнаму фонду.**

Нядаўна, як вядома, ён «пракалоўся» на 50 тыс. тон калійных угнаеньняў, якія спрабаваў «выбіць» з дапамогаю паплечніка Лукашэнкі дэпутата Булахава. Але не пасьпеў сьціхнуць гэты скандал, як насьпявае, здаецца, новы: згушчаюцца хмары вакол старшыні праўленьня ПРІФа Аляксандра Саманкова (былы сакратар парткаму Менскага мотавелазаводу).

Як паведамляе агенцтва СІМ, пракуратура Ленінскага раёну г.Менска аднавіла сьледзтва па крымінальнай справе, дзе сп. Саманкоў падазраецца ў прысваеньні 230 мільёнаў рублёў МП «Тэхнас». Гэтай крымінальнай справай сьледчыя ўжо займаліся больш за 6 месяцаў, але раптоўна (адразу пасьля прэзыдэнцкіх выбараў) справа была спынена «з-за адсутнасьці складу злачынства». Паводле зьвестак СІМ, спыненьню гэтай крымінальнай справы паспрыяў «адзін высокапастаўлены дэпутат, блізкі да прэзыдэнта». Паглядзім, на чым спыняцца сьледчыя зараз. Дарэчы, гэтай крымінальнай гісторыяй зацікавілася таксама пракуратура Рэспублікі.

**М.Г.**

## Віктар Цярэшчанка звольнены з адміністрацыі прэзыдэнта

**Звольнены з пасады начальніка ўправы да справаў тэрыторыяў адміністрацыі прэзыдэнта Віктар Цярэшчанка.**

Паводле неафіцыйных зьвесткаў, адной з галоўных прычынаў адстаўкі стала спроба сп.Цярэшчанкі ўладкаваць у МЗС групу людзей, сярод якіх была і дачка выканаўчага сакратара СНД Жана Каратчэня. Аднак міністар замежных справаў Уладзімер Сянько даклаў пра гэты факт прэзыдэнту, і той пакараў нядаўняга паплечніка. Апроч абвінавачваньняў у пратэкцыі, на Віктара Цярэшчанку быў знойдзены яшчэ адзін кампрамат: супрацоўнікі адміністрацыі прэзыдэнта даведаліся, што сп.Цярэшчанка, працуючы ў адміністрацыі, пакінуў у сябе 40% акцыяў Інстытуту мэнэджмэнту, якім ён кіраваў. Гэта быў даволі дальнабачны крок, бо зараз Віктару Цярэшчанку ёсьць куды вярнуцца.

***СІМ***

## Справу прыкрылі

**Старшыня Карэліцкага райвыканкаму К.Альфяровіч пасьпяхова займаўся камэрцыйнай дзейнасьцю цераз падстаўных асобаў, у тым ліку — блізкіх сваякоў.**

Для гэтага былі створаныя два малыя прадпрыемствы — «Лідар» і «Арыенцір». Паўгода гэтую справу расьсьледавала Карэліцкая раённая пракуратура, а выпадкам з хабарам займалася мясцовае КДБ. Аднак напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў па камандзе зьверху справа аб камэрцыйнай дзейнасьці К.Альфяровіча была спынена. Па нашых зьвестках названыя малыя прадпрыемствы існуюць дагэтуль, а старшыня Карэліцкага райвыканкаму, само сабой, надалей кіруе сваім раёнам.

**В. ДАНІЛАЎ**

## У міністра абароны ўсё ў парадку

### Генэрал Анатоль Кастэнка зноў «засьвяціўся»

Як паведаміў дэпутат ВС Сяргей Антончык, генэрал Кастэнка выкарыстоўвае на будоўлі свайго загараднага дому рабочых вайсковага ведамства.

Карэспандэнты СВАБОДЫ высьветлілі таксама, што гараж сыну міністра абароны будуюць салдаты тэрміновай службы (на здымку). Кіруе працаю на гэтым аб'екце прапаршчык, які, аднак, не пажадаў гаварыць з карэспандэнтамі, хуценька скокнуў ва ЎАЗік (нумар 0098 МА) і зьнік.

Дарэчы, нядаўна сын міністра абароны па ўласнай ініцыятыве стаў бяздомным і жыве цяпер разам з бацькам — сваю прыватызаваную кватэру ў цэнтры сталіцы ён здаў пад офіс аднаму сумеснаму прадпрыемству.

**Іван СІДАР**





## Чарговыя „двойкі" прэзыдэнту

Калі гэта прагучала першы раз, я стрываў. Але калі словы пра «80% насельніцтва» пачалі паўтарацца кожны дзень са шматлікіх вуснаў, спакойна слухаць гэтыя «нявінныя» агаворкі стала немагчыма.

Трэба раз і назаўжды запомніць, што за Лукашэнку ніколі не галасавала ні 80% выбаршчыкаў, ні тым больш 80% насельніцтва Беларусі. У першым туры за будучага прэзыдэнта аддалі свае галасы 44,8% ад тых, хто прыйшоў на выбары (а прыйшло каля 79%). Інакш кажучы, у абсалютных лічбах за яго галасавала 2.646 тысяч зь 7.476 тысяч выбаршчыкаў. Гэта значыць, каля 35% выбаршчыкаў. Іншымі словамі, у першым туры, калі народ меў выбар, Лукашэнку падтрымалі трохі больш за трэць выбаршчыкаў.

У другім туры, калі засталося толькі два кандыдаты, натуральна, што многія галасавалі па прынцыпу «абы ня Кебіч», альбо «абы нехта новы». Помніцца, пасьля путчу ў 1991 г., калі выбіралі старшыню Вярхоўнага Савету, у першым туры за Шушкевіча галасавала каля 120 дэпутатаў, а ў другім (калі сваю кандыдатуру зьняў Кебіч) больш за 200. Праз два з паловай гады (у студзені 1994 г.) тыя ж самыя людзі, зноў-такі 200 галасамі, зьнялі Шушкевіча. Хочаш ня хочаш, прыходзяць аналёгіі...

Гэта ўсё, аднак, толькі разважаньні, а факты гавораць аб тым, што ў другім туры прыйшло на выбары 70,6%, а зь іх 80,3% галасавалі за Лукашэнку. Інакш кажучы, яго падтрымалі 57% выбаршчыкаў (4.241тыс. зь 7.476тыс.). Хто не падтрымліваў — альбо галасавалі супраць, альбо (напрыклад, як я і ўсе мае знаёмыя) проста не прыйшлі на ўчасткі.

Таму прапаную прэзыдэнту і ягоным паплечнікам забыцца на ілжывую фразу аб 80% выбаршчыкаў, а ў прапагандысцкіх мэтах выкарыстоўваць адну з дзьвюх лічбаў: на выбар — 35% альбо 57% выбаршчыкаў. Можа тады прэзыдэнт ня будзе дапускаць бязглузьдзіц накшталт: «хто супраць мяне, той супраць народу».

Я ўжо не гавару пра іншыя красамоўныя выказваньні: «мая адміністрацыя», «мая граніца», «мой народ» (мелася на ўвазе «адміністрацыя прэзыдэнта», «дзяржаўная мяжа», «беларускі народ»). Тут, як кажуць, ужо нічога ня зробіш — вінаватая школа і тыя інстытуты, дзе будучы прэзыдэнт атрымліваў дзьве свае вышэйшыя адукацыі. Але адну палітычна небяскрыўдную «агаворку» прэзыдэнта прапускаць нельга. Расчулены сваімі цёплымі адносінамі да «старэйшага брата», Лукашэнка ўжо некалькі разоў (спачатку ў «Моманце ісьціны») заявіў, што на Беларусі жыве 2 мільёны расейцаў. Але гэта чарговая няпраўда. Канешне, колькасьць расейцаў у нас павялічылася, напрыклад, з 1959 г. амаль удвая і вырасла да 13% ад усяго насельніцтва. Аднак гэта складае ўсяго каля 1 мільёна 350 тысяч чалавек (насельніцтва Беларусі — 10,3 млн.). Іншая рэч, што небеларусаў у нас больш двух мільёнаў (прыкладна 22%). Але гэта ня толькі расейцы, але й палякі, украінцы, габрэі, цыганы, татары — ўсяго больш за сто нацыянальнасьцяў. Атрымалася, што Лукашэнка ўсіх іх запісаў у расейцаў — але, мяркую, прадстаўнікі гэтых нацыяў не гараць такім дзіўным жаданьнем. Шкада, канешне, што прэзыдэнт дапускае такія памылкі, за якія любая настаўніца геаграфіі паставіць «двойку» нават Сідараву, які п'е «Hershi» і «Hero».

**Віт ЗОРАЧКІН**

## Выйсьце з крызысу: кожнаму беларусу — жонку, якая вяжа

Мінулы тыдзень прайшоў пад знакам умацаваньня даляра на занятых вышынях. Адступаць ён не зьбіраецца, а экспэрты прагназуюць невялікі, але ўстойлівы рост ягонага курсу. Не абцяжараныя ведамі грамадзяне зьвязалі чацьвярговы (22 верасьня) выбух «зялёнага» з аналягічнай падзеяй на маскоўскай валютнай біржы. Гэта ня так. Розьніца істотная: ЦБ Расеі адмовіўся ад валютных інтэрвэнцыяў па сваіх прычынах, маючы дастатковыя валютныя рэзэрвы, а Нацыянальны банк Беларусі іх проста ня мае.

Плюс да гэтага — безупынны ціск на валютны рынак нашых слаўных энэргетыкаў, якім трэба тэрмінова разьлічвацца з Газпрамам. Урэшце рэшт, мы назіраем звыклы восеньскі танец інфляцыі на нашых костках. Абумоўлены ўжо ня гэтулькі сельскагаспадарча-прамыслова-сацыяльнай дабрачыннасьцяй НББ, колькі неабходнасьцяй купляць на зіму новае паліва й расплочвацца за старое.

24 верасьня парадавала актыўнасьцяй выканаўчая ўлада. Прэзыдэнт вырашыў навесьці парадак у валютных апэрацыях, для чаго выдаў адпаведны ўказ. А прэм'ер-міністар публічна прызнаўся, што асноўнаю крыніцаю даходаў ягонай сям'і зьяўляецца пасека і жонка, якая добра вяжа. Такім чынам, электарат можа быць спакойны як за прэзыдэнта з прэм'ер-міністрам, так і за іхных жонак. Мужыкі ня крадуць, а жонкі працавітыя: адна трымае карову, другая — вяжа.

Тымчасам у навакольным асяродзьдзі адбываюцца дастаткова непрыемныя рэчы. За сёлетнія 8 месяцаў нацыянальны даход краіны зьнізіўся на 27% (у параўнаньні зь мінулым годам). Грамадзяне марна спрабуюць угнацца за цэнамі: іхныя грашовыя даходы вырасьлі ў 19,7 разоў, а індэкс спажывецкіх цэнаў — у 24,8. Пры гэтым рэальная заработная плата зьнізілася на 33% і складае 27% ад сярэдняга заробку ў Расеі.

Увогуле, выйсьце са становішча бачыцца альтэрнатыўным: ці эміграваць усёй грамадой у Расею, ці пачынаць нешта рабіць у сябе.

«Зорны час» перажывае наш беларускі Мільтан Фрыдман — старшыня НББ Станіслаў Багданкевіч. Урэшце ён дачакаўся чалавека, які хоць і праз пень-калоду, але спрабуе накіраваць краіну на шлях рэформаў. Сп. Багданкевіч сустрэўся з журналістамі і адкрыў ім сакрэт Палішынэля: у падвалах НББ знаходзяцца новыя беларускія грошы. Апроч таго, «зайцы» стануць адзіным платным сродкам у Беларусі, а незаконныя валютныя ўклады за мяжой будуць амніставаныя. Такім чынам, кіроўная эліта зрабіла для сябе фундаментальную выснову: грошы ня пахнуць.

Галоўная выснова мінулага тыдня: жыць стала горш, жыць стала весялей. Хоць іншы раз няма на што купіць бутэльку малака, затое пачаўся чарговы «мыльны» сэрыял пад назваю «Проста парлямант». Тымчасам здымаецца новы — «Дзікі выхад з крызысу».

**Андрэй СЯРЖАН**

## Зь немцам вырашылі «разабрацца»

**На першы аўкцыён у Кобрынь прыехаў нямецкі бізнэсмэн Хос Бэлер.**

За 29 тысячаў дойчэмарак ён купіў «замарожаную» будоўлю маладзёжнага цэнтру ў гарадзкім парку. Аднак усе спробы разьлічыцца валютаю аказаліся марныя: гарвыканкам чамусьці адмовіўся ўзяць дойчэмаркі. А тут яшчэ памочнік раённага пракурора П.Бабіч і пасланьнік прэзыдэнта па асаблівых даручэньнях В.Кучынскі ўгледзелі ў правядзеньні аўкцыёну парушэньні ды запатрабавалі неадкладна выправіць хібы, а таксама — «разабрацца зь немцам». Спадар Бэлер паглядзеў на гэтае вар'яцтва, плюнуў і адмовіўся ад пакупкі, заявіўшы, што болей у Беларусі ня купіць нават цагліны.

Мірон ГАМОН

## Дарагая «Чайка»

**На аўкцыёне ў Берасьці ўстаноўлены своеасаблівы рэкорд.**

За краму «Чайка» адна менская фірма заплаціла 600 млн. рублёў, што перавысіла стартавы кошт у 145 разоў.

Лявон МУХАВЕЦКІ

## Кастэнка абвясьціў «мабілізацыю»

**Праз наваполацкую радыёсетку пачала гучаць аб'ява гарвыканкаму, у якой усіх афіцэраў запасу запрашаюць 6 кастрычніка на сход дзеля ўтварэньня гарадзкой арганізацыі Саюзу афіцэраў.**

У гарвыканкаме свае дзеяньні тлумачаць па-вайсковаму: маўляў, яны выконваюць загад Кастэнкі.

Тамаш ГУРБА

## Быў клюб, стала капліца

**У вёсцы Танявічы Шчучынскага раёну асьвечана новая капліца. Раней гэта быў драўляны сельскі клюб.**

Людзі сабралі грошы, адкупілі яго, а потым адрамантавалі. Да ўрачыстасьці яны таксама падрыхтаваліся належным чынам. Каб пачаставаць біскупа і ксяндзоў, зарэзалі цяля.

В.В.

## Сьвяты быў забіты ў Асьвенціме

**У Горадні 1 кастрычніка адзначалі 100-я ўгодкі сьвятога Максымільяна Кольбэ, замардаванага ў Асьвенціме.**

Урачыстасьць адбылася ў Францішканскім касьцёле, дзе айцец Максымільян калісьці служыў. У сьвяце ўдзельнічаў Урошлаўскі мітрапаліт з Польшчы кардынал Генрык Гульбіновіч.

С.А.

## Гайдукевіч будзе рухаць і надалей

**Мінулай суботай у Менску адбыўся 2-гі кангрэс народаў Беларусі.**

Кангрэс значна адрозьніваўся ад леташняга 1-га кангрэсу і яшчэ раз засьведчыў раздрай у шэрагах левых. Партыя камуністаў і камсамольцаў у ягонай працы ўдзелу не прымалі, але сам сп. Чыкін завітаў на кангрэс у якасьці рэдактара «Мы и время» і паведаміў, што вяртацца пад дах НРБ у бліжэйшы час ягоная партыя не зьбіраецца. Незадаволенасьць расхістанасьцю ў сваіх шэрагах выказвалася многімі. У першую чаргу прэтэнзіі за развал НРБ выстаўляліся да старшыні Народнага Руху Сяргея Гайдукевіча, але ініцыятыва гарадзенскай дэлегацыі аказаць вотум недаверу Гайдукевічу не прайшла, і ён застаўся рухаць і надалей. Вынікам гэтага, па нашай інфармацыі, стаў выхад на днях берасьцейскай арганізацыі Народнага Руху Беларусі зь ягоных шэрагаў.

Анэкдатычнай падаецца сытуацыя, што склалася вакол рэфэрэндуму, тэматыку якога зацьвердзілі дэлегаты кангрэсу. Напярэдадні зь ініцыятывай рэфэрэндуму, з такім жа пералікам пытаньняў (дзнансацыя белавескіх пагадненьняў, увод двухмоўя, адмена прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці і зямлю, перагляд існуючай сымболікі) выступіла таксама арганізацыя «Отчизна», якая ўваходзіць у Народны Рух Беларусі. Вынікам няўзгодненасьці пазыцыяў народнарухаўцаў стала стварэньне двух дублюючых адзін аднога аргкамітэтаў па рэфэрэндуму.

Ю.К.

На здымку: С.Гайдукевіч рыхтуецца выступіць з дакладам.

## Замест знака якасьці — Пагоня

**30 верасьня ў Горадні адбылася канфэрэнцыя «Геральдыка ў традыцыях мясцовага самакіраваньня Гарадзеншчыны».**

Яе арганізавала мясцовая філія фонду Льва Сапегі. На канфэрэнцыі выступілі найлепшыя ў Беларусі знаўцы геральдыкі.

Анатоль Цітоў зь Менска прывёў цікавыя зьвесткі. 90 гарадоў сёньняшняй Беларусі мелі гербы, а ў ейных этнічных межах — звыш 120-ці. Ён таксама прапанаваў адрадзіць у будучыні магістраты, якія існавалі ў краіне ўжо 500 гадоў таму. У нас жа цяпер думаюць стварыць мэрыі, як у Расеі. Першая мэрыя ўзьнікла толькі ў 1812 г., калі Напалеон увайшоў у Маскву. Сп. Цітоў паказаў прысутным выяву гарадзенскай харугвы, якая захоўваецца ў музэі Войска Польскага ў Варшаве. На ёй вершнік у чорным панцыры і на чорным кані. Гэты варыянт Пагоні ён і прапанаваў для герба Гарадзеншчыны, які вырашана стварыць. Дзеля гэтага будзе пакліканая абласная камісія.

У Менску створаная Дзяржаўная геральдычная служба, якую прадстаўляў В.Насевіч. Удзельнікі канфэрэнцыі пагадзіліся, што ўсе гарады павінны мець свае гербы. Гербавую выяву можна будзе выкарыстоўваць, апроч іншага, і як знак якасьці. Менавіта так — адбіткам гарадзкой пячаткі — у сярэднявеччы пазначаліся найлепшыя тавары.

С.МАКС

## Дыплём honoris causa — Барысу Кіту

**У Гарадзенскім унівэрсытэце імя Янкі Купалы ўручаны дыплём honoris causa акадэміку астранаўтыкі Барысу Кіту, які жыве ў Нямеччыне.**

Летась ганаровым прафэсарам унівэрсытэту стаў доктар Вітаўт Кіпель зь Нью-Ёрку.

В.В.

## Першая польска-беларуская газэта

**У Горадні выйшаў першы нумар дзьвюхмоўнай газэты для школьнікаў «Цудоўна подруж».**

Палова тэкстаў беларускія, другая палова — польскія. Дагэтуль яна друкавалася толькі па-польску. Газэта выходзіць раз на месяц, выдае яе літаратар і бізнэсмэн Уладзімер Малашкевіч.

С.М.

## Бура ў шклянцы вады

**На апошняй сэсіі Гарадзенскага гарсавету абмяркоўвалі парадак дня. Спрэчкі былі такія зацятыя, нібы дэпутаты дыскутавалі ня менш чым аб пабудове ў горадзе атамнай станцыі.**

Аднак яны ўсяго толькі спрачаліся, ці варта вуліцы Розы Люксэмбург і яшчэ некалькім вярнуць іхныя гістарычныя назовы. Чатыры гады таму дэпутаты самі ж вырашылі, што перайменоўваць абавязкова трэба. Зь незалежніцкіх памкненьняў або са страху ад жнівеньскага путчу некалькі назоваў зьмянілі, а потым наскочыла каса на камень. Колькі разоў ні выносілася пытаньне на сэсію — дэпутаты, успомніўшы хто пра непатрэбны ўжо партбілет, а хто — пра савецкі патрыятызм, гэтак варожа выкасоўвалі яго з павесткі дня, нібыта мова йшла пра напад гарадзенскага войска на суверэнную рэспубліку Зімбабвэ або хаця б пра захоп і далучэньне да Гарадзенскага раёну Друскенікаў.

Першы падбег да мікрафона былы палітработнік дэпутат А.Філін і адразу прыгаломшыў калегаў: «Вопрос переименования — политический. Мы не должны столкнуть лбами людей противоположных взглядов. На этих улицах за 50 лет выросло целое поколение» і г.д. Пасьля такой прэлюдыі выйшаў дэпутат Г.Гірас са словамі «извините, что я прочитаю сейчас заявление на белорусском языке» і пачаў зачытваць заяву да сэсіі, складзеную Камуністычным саюзам моладзі, «Народным движением», ДСПС, Саюзам афіцэраў, Народным саюзам «Очищение». Пры гэтым ён як бы між іншым падкрэсьліў, што «Очищение» — група падтрымкі Лукашэнкі, і атрымалася, нібыта сам прэзыдэнт супраць перайменаваньня вуліц Р.Люксэмбург або Ухчозаўскай.

Заява стылем і фармулёўкамі нагадвала дакументы сталінскіх часоў пра «нацдэмаў», «шпіёнаў», «шкоднікаў» і «ворагаў народу». «Очищенцы» & Со пужалі дэпутатаў «БНФаўскай фрондай», якая прагне «выветрыць з нашай памяці ўсё савецкае, рускае, каб і духу не засталося ад савецкай улады». Аказваецца, у зьмене назову Р.Люксэмбург «праглядаюцца нават антыдзяржаўныя [?] і нацыяналістычныя інтарэсы»! Прапануецца вярнуць вуліцы, дзе жылі майстры залатой справы, ейны старадаўні назоў Залатарская, а «залатар» паводле расейскага слоўніка азначае асэнізатар! Але ж камуністычная моладзь разам з хаўрусьнікамі кінула дэпутатам і «костку», дазволіўшы ім з 11-ці вуліц перайменаваць адну толькі Чапаеўскую. А астатнія чапаць забаранілі, нават Ухчозаўскую, паколькі ўсё гэта няйнакш як «небясьпечнае палітыканства», «імкненьне пасеяць варожасьць» і ўвогуле «палітычная правакацыя напярэдадні прыезду Ельцына»!

Прысутныя ажно сьцішыліся ад гэткай колькасьці пагрозаў і жахаў. Дэпутат Чарун, аднак, сказаў, што пытаньне з вуліцамі — другаснае, і напалее абстаноўку не яно, а навешваньне ярлыкоў. Таму трэба дбаць, каб гараджанам было што есьці, а не пра Люксэмбург. Некалькі дэпутатаў таксама зазначылі, што дэстабілізуюць сытуацыю сваімі правакацыйнымі пагрозамі якраз аўтары гэтай адыёзнай «адозвы». Карацей кажучы, нарэшце вулічнае пытаньне пакінулі ў парадку дня, хаця супраць галасавалі былы першы сакратар гаркаму тав.Забродзкі і ягоны ідэялягічны сакратар тав. Цыганкова, абодва — дэпутаты.

Арганізатары сэсіі дыпляматычна ўключылі ў парадак і яшчэ адно «ідэялягічнае» пытаньне — пра наданьне годнасьці ганаровага грамадзяніна Горадні генэрал-маёру ў адстаўцы М.Глазунову. Здавалася, з гэтым усё будзе о'кей. Але ж для рашэньня не хапіла 3 галасоў. Некаторыя дэпутаты таксама ўбачылі ў прапанове «палітычны» падтэкст. Чаму менавіта жыхара Масквы й грамадзяніна Расеі рабіць ганаровым грамадзянінам, калі іх дагэтуль было ўсяго 11 чалавек? Сярод іх, прыкладам, трэнэр Кныш, гадаванка якога В.Корбут праславіла Беларусь у сьвеце. Апошняму гэтае званьне надалі «найдужэйшаму чалавеку ў сьвеце», чэмпіёну Алімпійскіх гульняў гарадзенцу А.Курловічу. З хадайніцтвам пра наданьне генэралу ганаровага званьня выступілі расейскі Інстытут вайсковай гісторыі і Дзяржынскі ваенкамат г.Масквы. Карацей, пытаньне не прайшло. А паспрыяў гэтаму нават тав. Забродзкі, які ўцёк з сэсіі. Але ж у яго цяпер «крутый» бізнэс, і часу на паседжаньні няма, як было некалі.

Прэсынг на сэсію ажыцьцяўляў з вуліцы 25-асабовы пікет прадстаўнікоў арганізацыяў, якія падпісалі «зварот» наконт вуліц. Гэта — розныя саюзы, сярод членаў якіх пануюць антыбеларускія, антыдэмакратычныя настроі. Яны абвінавачваюць ва ўсіх грахох народнафронтаўцаў. Між тым апошнія зьвярнуліся з запытам да абласных уладаў, чаму на будынку выканкаму не вывешваюць Пагоню. Атрымаўшы адпіску аб браку грошай на герб, яны ня сталі пагражаць, як гэта робяць пракамуністычныя арганізацыі. Дарэчы, пікет у падтрымку перайменаваньня хацелі выставіць студэнты ўнівэрсытэту, але ўлады папрасілі іх ня рабіць гэтага, каб не напаляць абстаноўку.

Адзін з дэпутатаў мне прызнаўся, што ягоныя калегі адчуваюць сваю непаўнавартасьць, а таму ўсчыняюць гармідар вакол другаснага вулічнага пытаньня. Уплываць на гарадзкое жыцьцё вельмі цяжка, а пагатоў — палепшыць яго. Куды прасьцей з вуліцамі — прагаласаваць супраць і сьвяткаваць маленькую перамогу. Аднак дэпутаты так нічога і ня вырашылі ды адклалі сэсію да наступнага тыдня.

Адзінае, што пры паўторным галасаваньні генэрал Глазуноў здолеў дабраць патрэбныя галасы, каб стаць ганаровым грамадзянінам Горадні.

В. ВАСІЛЕВІЧ

# Скандал вакол пасла

**Прыканцы мінулага тыдня праз афіцыйныя каналы прамільгнула малапрыкметная інфармацыя пра тое, што новым паслом у Швайцарыі і адначасова афіцыйным прадстаўніком пры місіі ААН у Жэнэве прызначаны Станіслаў Агурцоў. Здавалася б, нічога звышнатуральнага, чарговая перастаноўка на дыпляматычнай лесьвіцы. Але, як выяўляецца, ня ўсё так проста. «Перастаноўцы» папярэднічаў даволі прыкметны скандал, які атрымаў розгалас у Швайцарыі, але, на жаль, зусім не вядомы беларускай грамадзкасьці.**

Сутнасьць скандалу ў наступным. Год таму Беларусь набыла ў сталіцы Швайцарскай Канфэдэрацыі Бэрне будынак для амбасады. Беларускі пасол сп.Мардовіч заключыў кантракты зь мясцовымі прадпрымальнікамі на рэканструкцыю ды рамонт будынка, гарантаваўшы аплату ўсяго комплексу работ. Швайцарскія будаўнікі пачалі сумленна выконваць сваю працу. Але праз нейкі час абяцаныя беларускім паслом грошы раптам перасталі паступаць на рахункі швайцарскіх прадпрымальнікаў, і тыя былі вымушаныя прыпыніць працу на аб'екце.

Тымчасам сп.Мардовіч двойчы прызначаў даты ўрачыстага адкрыцьця беларускай амбасады ў Бэрне, аднак даўно прамінулі абодва тэрміны, а пра прызначэньне трэцяй даты нават і гаворкі няма, бо будынак так і застаецца непрыдатным для выкарыстаньня. Вось чаму сп.Мардовіч да апошняга часу разьмяшчаўся ў Жэнэве пад агульным адрасам місіяў Беларусі, Украіны ды Расеі пры ААН, парушаючы тым самым дыпляматычныя нормы Швайцарыі, згодна зь якімі нават у выпадку двайнога мандату рэзыдэнцыя пасла павінна знаходзіцца ў Бэрне.

Але гэта яшчэ паўбяды, тым больш што швайцарскія ўлады, сьпісваючы ўсе праблемы за кошт фінансавых цяжкасьцяў маладой краіны, не жадаюць драматызаваць сытуацыю.

Больш востра пытаньне ставяць раззлаваныя швайцарскія прадпрымальнікі, якія так і не атрымалі ад беларускага пасла зробленых грошай. Яны пайшлі на адчайны крок: зьвярнуліся ў Швайцарскі дэпартамант замежных справаў, выставіўшы неаплочаныя рахункі на суму 115000 франкаў.

Кіраўнік працаў па рэканструкцыі й рамонце будынка беларускай амбасады перакананы, што праблема не ў платаздольнасьці маладой беларускай дзяржавы, а ў паслу Мардовічу, для якога Швайцарыя зьяўляецца апошнім этапам кар'еры.

Газэта *Neue Zürcher Zeitung*, якая падрабязна апісала скандал вакол асобы ўжо цяпер былога пасла Беларусі, прыгадвае ў гэтым кантэксьце і іншыя ягоныя грашкі. Напрыклад, не абышлі ўвагаю грэблівае стаўленьне Мардовіча да беларусаў, што жывуць у Швайцарыі, якіх ён «адфутбольваў» па консульскіх пытаньнях у Менск. Не без сарказму паведамляецца таксама, што беларускі пасол праяўляў асаблівую цікавасьць «да **старой** (*выдзелена рэдакцыяй «NZZ»*) сантэхнікі з бэрнскага пасольскага будынку» і што ў гэтым пытаньні «ён патрабаваў паслугаў ад супрацоўнікаў консульскага аддзелу ў Бэрне». Напрыканцы «NZZ» зьедліва канстатуе: «Відаць, гэтую заходнюю сантэхніку чакае цяпер якое-небудзь лецішча ў Беларусі». А тымчасам у Бэрне чакае адкрыцьця беларуская амбасада.

Застаецца толькі спадзявацца, што новаму паслу Беларусі ў Швайцарыі і пастаяннаму прадстаўніку ў жэнэўскіх міжнародных арганізацыях Станіславу Агурцову ўдасца згладзіць тое нэгатыўнае ўражаньне, якое пакінуў па сабе ягоны папярэднік, і што адпаведныя антыкарупцыйныя структуры ў Менску ўважліва вывучаць усе акалічнасьці знаходжаньня сп.Мардовіча на адказнай прадстаўнічай пасадзе ў Швайцарыі.

**Вінцук ШОСТКА**

# Дарагому Туркмэнбашы...

Замалёўкі з паездкі ў Туркмэнію

**З усіх краінаў былога СССР Туркмэністан для беларусаў як быў, так і застаецца, бадай, самай нязьведанай. З рэдкіх паведамленьняў у маскоўскай прэсе можна даведацца, напрыклад, што яшчэ аднаму калгасу нададзена імя Сапармурата Ніязава або што прэзыдэнт зацьвердзіў новае дзяржаўнае сьвята — дзень туркмэнскіх дыняў... Пра астатняе я вырашыў даведацца сам і на два тыдні выправіўся ў гэтую сярэднеазіяцкую краіну.**

Па-першае, трапіць у Туркмэністан ужо само па сабе праблема. Калі ў вас узьнікне такое жаданьне, для ягонага ажыцьцяўленьня вам спатрэбіцца 200 тыс. расейскіх рублёў — кошт квітка на самалёт да Ашгабата. У іншым выпадку давядзецца ехаць двое з паловай сутак цягніком. Але загадзя рыхтуйцеся, што палова вокнаў у цягніку будуць выбітыя, што ў вагоне можа ехаць не 54 чалавекі, а прынамсі ўдвая больш, спаць у іх можна паўсюль, у тым ліку і ў праходах, што ўвесь шлях праз Казахстан вы будзеце змагацца з «зайцамі», якія спрабуюць залезьці ў вагон праз разьбітыя шыбы, што дзьверы ў вагоне будуць увесь час зачыненыя, каб не пускаць тых жа безьбілетнікаў, і каб што-небудзь купіць на станцыях, вам давядзецца выскокваць з вакна. Ну і, нарэшце, вы маеце вялікія шанцы стаць ахвярай крадзяжу ці нават добра зарганізаванага рабаваньня, што адбылося на маіх вачох у адным з вагонаў цягніка Ашгабат—Масква. Нагледзеўшыся гэткага, вы зробіце ўсё магчымае, каб вярнуцца назад толькі самалётам, і, безумоўна, падтрымаеце рашэньне туркмэнскага ўраду, які ад пачатку верасьня скасаваў усе чыгуначныя маршруты ў маскоўскім кірунку з прычыны бандытызму й рабаваньня цягнікоў у Казахстане.

Кіраўніцтва краіны, у якую вы трапіце, заяўляе пра пабудову «сьвецкае дзяржавы». Праўда, знайсьці прыкметы гэтае сьвецкасьці будзе вельмі цяжка — хіба толькі тое, што навучэнцы ўсіх школаў і дзіцячых садкоў вучаць адразу тры мовы: туркмэнскую, ангельскую й расейскую — з чым іх можна толькі павіншаваць. Ва ўсім астатнім краіна нагадвае азіяцкі варыянт манархіі з элемэнтамі савецкага культу асобы. Помнікі, партрэты й выказваньні Туркмэнбашы (Правадыра туркмэнаў) — прэзыдэнта Сапармурата Ніязава будуць суправаджаць вас паўсюль у краіне і нават у салёне самалёта, што ляціць у Маскву. Пра зьяўленьне некаторых зь іх можна расказваць легенды. Як, напрыклад, пра помнік Ніязаву на галоўным пляцы горада Чарджоў, дзе я меў шчасьце знаходзіцца. Ён зьявіўся там праз колькі тыдняў пасьля таго, як забралі на «рэстаўрацыю» помнік Леніну. Тыя, хто памятае Ільіча, сьцьвярджаюць, што новы правадыр падобны да ранейшага як дзьве кроплі вады — толькі галава іншая.

Народная любоў да Туркмэнбашы ня можа ня ўражваць. У крэсла прэзыдэнта з крэсла першага сакратара ЦК Кампартыі Туркмэністана, якое займаў з 1985 году, ён перасеў пры падтрымцы 92% насельніцтва. Не дачакаўшыся заканчэньня тэрміну сваіх паўнамоцтваў, спадар Ніязаў правёў летась рэфэрэндум аб прадоўжаньні іх яшчэ на пяць год. І тут поўны посьпех: за шчасьце быць кіраванымі такім цудоўным чалавекам прагаласавала, паводле афіцыйных зьвестак, усё насельніцтва краіны, акрамя 228 чалавек, што выказаліся супраць. Праўда, бальшыня тых, з кім я размаўляў, сьцьвярджаюць, што на рэфэрэндум не хадзілі і добра, калі гэта зрабіла палова насельніцтва...

Палітычнае жыцьцё краіны ўяўляе сабой ідылію з прычыны поўнай адсутнасьці нават дэкаратыўнай апазыцыі прэзыдэнту. Усіх нешматлікіх апазыцыянэраў, якія зьявіліся напрыканцы 80-х гадоў, Туркмэнбашы або перацягнуў на свой бок, пасадзіўшы ў мяккія крэслы, або адправіў за краты, аднак не як палітвязьняў, а як крымінальнікаў (інсьпірацыя захоўваньня наркотыкаў, махлярства і г.д.). Тыя, каму пашчасьціла пазьбегнуць гэткага лёсу, уцяклі ў Маскву, дзе заснавалі фонд «Туркмэністан», пра які на іхнай радзіме ведаюць адзінкі. Прэзыдэнт узначальвае адзіную ў краіне партыю — Дэмакратычную (экс-камуністычную). Сэсіі Мэджлісу (былога Вярхоўнага Савету) працягваюцца 2-3 дні. За гэты час народныя выбраньнікі прымаюць па 30-40 законаў, падрыхтаваных у прэзыдэнцкіх структурах.

У эканамічных плянах прэзыдэнта — уваход да 2004 году ў лік пяці краінаў сьвету з найвышэйшым узроўнем жыцьця. Гэтага можна дамагчыся, выканаўшы праграму «10 год дабрабыту», распрацаваную самім Туркмэнбашы. Але тое будзе праз дзесяцігодзьдзе, а сёньня ў крамах амаль поўная адсутнасьць і пакупнікоў, і тавараў. Нармальныя грамадзяне ходзяць рабіць пакупкі на рынак, які працуе дзякуючы гандлярам з суседняга Ўзбэкістана, а таксама зь Ірана і Расеі. У часы СССР Туркмэністан жыў вылучна на прывазным, не разьвіваючы ўласнае прамысловасьці. Вынік — сёньня 90% грошай, выдадзеных людзям, не вяртаюцца ў банк. Адсюль — затрымкі з выплатай чарговых заробкаў, неабходнасьць друкаваць усё новыя й новыя мільёны манатаў, інфляцыя. Эканоміка краіны трымаецца толькі на экспарце нафты й газу, прыбытак ад якога складае 13,5 тыс. даляраў у месяц на кожнага грамадзяніна — ад немаўляці да стогадовых старцаў, а таксама на замежных інвэстыцыях у гэтую галіну эканомікі. Прычым прыбытак ад экспарту можа быць і большы, ды прадаваць няма куды.

Сярэдні заробак у краіне — 7 даляраў паводле курсу чорнага рынку, што выглядае сьмешна, нават калі ўлічыць бясплатныя газ, ваду й сьвятло, мізэрную кватэрную плату і абяцаны прэзыдэнтам бясплатны з новага году хлеб. Сам прэзыдэнт, па яго ўласным цьверджаньні, зарабляе 2000 даляраў.

На заканчэньне колькі словаў пра калегаў-журналістаў. Туркмэнскае тэлебачаньне глядзець вам не рэкамэндую, калі вы толькі не прыхільнік асобы Туркмэнбашы, нацыянальнай музыкі або савецкай кінаклясыкі на туркмэнскай мове (іншага амаль не паказваюць). Уяўленьне аб прэсе можаце скласьці, пагартаўшы дзесяцігадовай даўнасьці беларускія газэты і ўявіўшы на месцы фотаздымкаў членаў ЦК КПСС здымкі самі ведаеце каго. Туркмэнскім журналістам давялося ўспомніць, што такое штатны цэнзар, і абавязак цытаваць прэзыдэнта, калі гэта толькі магчыма.

...Едучы праз два тыдні ў цягніку Масква—Менск, вы ўжо будзеце сумнявацца, а ці былі вы сапраўды ў краіне, дзе ў цягніках езьдзяць на дахах вагонаў, дзе самалёты затрымліваюцца з вылетам на дзьве гадзіны, чакаючы двух спозьненых «сваіх людзей», і дзе пры 30-градуснай сьпякоце людзі ўжо не купаюцца — «холадна». Аднак у дыплямаце побач з вамі будуць ляжаць цюбецейка, каляровы партрэт Туркмэнбашы, набыты ў краме, і газэта «Туркменская искра» з шапкай «Взошла луна — и мир увидел. О визите Сапармурата Туркменбаши в Тегеран». Гэта адкіне ўсялякія сумневы, і вам захочацца назад. Але не раней 2005 года.

**Віктар ДЗЯТЛІІКОВІЧ**



# У Бельску кіруюць беларусы

**У Бельску-Падляскім, другім па велічыні горадзе Беластоцкага ваяводзтва, на пасаду мэра абраны 29-гадовы беларус Андрэй Сьцепанюк.**

Старшынём гарадзкой Рады абраны Васіль Ляшчынскі, таксама беларус.

На выбарах у органы мясцовай улады беларускі выбарчы камітэт, які ў Бельску-Падляскім выступаў у кааліцыі зь левымі, заваяваў супольна 18 месцаў у гарадзкой Радзе з 28-мі. Каталіцка-правы лягер «Адзінства», які кіраваў горадам раней, доўгі час блякаваў выбары мэра, пакідаючы залю паседжаньняў і зрываючы тым самым кворум. Аднак пасьля доўгіх перамоваў кааліцыя «Адзінства» пагадзілася ўсё ж прагаласаваць за прадстаўніка беларусаў узамен за пасаду намесьніка мэра і два месцы ў гарадзкой Радзе.

**В. ЦАПАЯ**

## Каложа на піўной этыкетцы

**Гарадзенскі бровар пачаў выпускаць піва «Калоскае».**

У горадзе новы гатунак ўбачыш нячаста, але затое «Калоскае» можна купіць на беластоцкім рынку, дзе яго прадаюць удвая таньней за польскае. Карацей кажучы, новае піва адразу стала папулярным.

Вось толькі настаяцель Каложы айцец Анатоль заявіў пратэст дырэкцыі бровару. Ён лічыць, што абрыс царквы на піўной этыкетцы недапушчальны. Ёсьць зьвесткі, нібыта ён зьбіраецца падаць у суд за выкарыстаньне выявы сьвятыні на алкагольным напоі, ды яшчэ бяз згоды на тое царкоўнага начальства.

**М. МІКАЛАЙЧЫК**

## Бабры ў памежнай зоне

**Рака Ласасянка плыве з Польшчы і ўпадае ў Нёман на гарадзенскай ускраіне. Нядаўна Ласасянка нечакана пачала падтапляць палеткі па той бок мяжы.**

Палякі затэлефанавалі ў Горадню. І вось што высьветлілася. У 800-мэтровай памежнай зоне пасялілася сям'я з чатырох баброў. На Ласасянцы яны збудавалі гаць, з-за якой вада з заходняга боку ўзьнялася амаль на мэтар. На баброў склалі акт, а начальнік памежнай заставы атрымаў параду разбурыць плаціну, каб палякі ня выставілі рахунак за нанесеную шкоду.

**С.А.**

## Ахвяра мірнага палёту

**Верталёт вайскова-паветраных сілаў Беларусі праляцеў на зусім малой вышыні над сядзібаю пэнсіянэра Я. ў вёсцы Сястронкі Полацкага раёну.**

У выніку спуджаны конь гаспадара памёр ад разрыву сэрца. Сьмерць засьведчыў тутэйшы вэтэрынар. Гаспадар вырашыў дамагчыся кампэнсацыі ад Міністэрства абароны.

**Васіль КРОКВА**

## Нехта згубіў

**На тэрыторыі цэху № 201 Наваполацкага вытворчага аб'яднаньня «Палімір» была знойдзеная баявая граната Ф-1.**

Гаспадар не аб'явіўся.

**Тамаш ГУРБА**

## Бронзавы Арцыменя зноў нагадаў пра сябе

**На магіле Дзьмітрыя Арцымені — былога старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму, які быў забіты 20 верасьня летась, пастаўлены помнік.**

Гэта гранітная пліта, да якой прымацаваны бронзавы барэльеф нябожчыка. На ліцьцё, якое было выканана ў Менску, пайшло 90 кг. бронзы. Працу аплацілі аблвыканкам разам зь іншымі ўстановамі і сям'я Арцымені. На рахунак мастацкага камбінату пералічана каля 4,5 мільёна рублёў. Аўтар барэльефу (скульптар А.Салятыцкі) атрымаў 10% гэтай сумы.

Пасьля зьяўленьня помніка ў горадзе зноў загаварылі пра «справу Арцымені». Людзі задаюцца тым самым пытаньнем: чаму ня знойдзены забойца, чаму цэлы год трымаюць у сакрэце гэтую гісторыю, няўжо так нічога й ня высьветлілі? А між тым у свой час сьцьвярджалася, што расьсьледаваньнем забойства займаюцца «лепшыя кадры»...

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

## Да нас едзе «дон Карлеонэ»

**Паводле неафіцыйных зьвесткаў (афіцыйных няма), стала вядома, што расейская арганізаваная злачыннасьць накіравала ў Беларусь сваіх людзей дзеля «ўмацаваньня» кадраў».**

Зьвесткі ёсьць пра двух маскоўскіх «аўтарытэтаў». Адзін зь іх даволі малады і «каранаваны» нядаўна на «злодзея ў законе». Наколькі можна меркаваць, расейская «коза ностра» жадае кантраляваць «заходні калідор», каб мець гарантыі і ня мець тут нечаканых непрыемнасьцяў. Як вядома, плынь наркотыкаў зь Сярэдняй Азіі ўсё больш упэўнена скіроўваецца ў бок Заходняй Эўропы. Хто яе кантралюе, тлумачыць ня трэба.

**С.К.**

# Паліцэйская дзяржава?

**На працягу цэлага месяца (да 1 кастрычніка) на ўсіх выездах зь Менску і ўдзень, і ўначы разам зь інспэктарамі ДАІ дзяжурылі аўтаматчыкі.**

Нікога асабліва не злавілі, затое мірных грамадзянаў трохі напалохалі — звычайная праверка дакумантаў праводзілася абавязкова пад дулам калашнікава. Гэта нагадвала рэжым вайсковага становішча. Цяпер на пастах ДАІ збудаваныя фундамэнтальныя загароджы (падобна як на ракетных базах). Усё гэта называюць «барацьбой са злачыннасьцю». Тым часам злачынцаў гэта не турбуе, бо яны і раней ня езьдзілі праз пасты ДАІ, хапае іншых дарог. Але ж прэзыдэнт загадаў «змагацца», вось і змагаюцца. Кожны чалавек за рулём аўтаматычна трапляе ў лік падазроных.

**Іван СІДАР**

# З Сажа рэгулярна вылоўліваюць трупы

**На працягу аднаго тыдня тры неапазнаныя мужчынскія трупы вылаўленыя з Сажа ў раёне вёсак Старыя Дзятлавічы і Старыя Цярэшкавічы.**

Ва ўсіх выпадках сьмерць наступіла гвалтоўна: на адным з трупаў выявілі 17 нажавых ранаў. Да ног усіх загінулых былі прывязаныя трактарныя тракі. На думку супрацоўнікаў міліцыі, мужчыны, магчыма, былі забітыя ў выніку крымінальнай разборкі і прыкладна ў адзін і той жа час, а пасьля іхныя целы скінулі ў раку. Міліцыя не выключае магчымасьці, што ў бліжэйшыя дні ў гэтым раёне могуць быць знойдзеныя яшчэ некалькі трупаў.

**СІМ**

## Субота, 8 кастрычніка

### Беларускае тэлебачаньне

8.00 Раніца Рэспублікі.
8.10 Эканамікст.
8.20 Пад купалам Сусьвету.
8.30 Надвор'е.
8.40 Пяць хвілін на жарты.
8.50 «Аэліта, не чапіся да мужчын», м/ф.
10.20 Здароўе.
11.00 Гандбол. СКА (Менск) — «Трыест» (Італія).
12.30 «Люлю — анёл кветак».
13.05 «Лісты да жывых», м/ф.
14.45 «Бімбат».
15.05 Шматгалосьсе.
15.45 Асілак.
16.50 «Жоўлачкі ніндзя».
17.15 «Субмарыны — акулы са сталі», д/ф.
17.45 Хакей. «Цівалі» (Менск) — «Тарпэда» (Яраслаўль).
19.25 «Нов і К» — топ-10.
20.25 Пяць хвілін на жарты.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 «Дым», м/ф, с. 1.
22.50 Пад купалам Сусьвету.
23.00 «Каскад».
23.20 Відзьма-нявідзьма.

### Канал «Астанкіна»

6.30 Раніца спраўнага чалавека.
7.15 Спорт-шанц.
7.45 Слова пастара.
8.00 Покліч джунгляў.
8.30 Тэлерадыёкампанія «Мір».
10.00 Ранішняя пошта.
10.30 Мэдыцына для цябе.
11.00 Бяз паўзы.
11.10 Смак.
11.25 «На падмостках сцэны», м/ф.
13.05 Валейбол. Чэмпіянат сьвету.
13.50, 22.50, 23.50 Навіны.
14.00 Кніжны двор.
14.30 «Спасьціжэньне дэмакратыі». Фільм 1-ы «Гэнэза».
15.40 Ахоўны ліст.
16.10 «Жыцьцё заапаркаў».
16.50 «Ступень да Парнаса». Афіша фэстывалю.
17.10 Брэйн-рынг.
18.00 Да і пасьля...
18.55 Смехапанарама.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Навіны плюс.
20.35, 23.00 Надвор'е.
20.45 «Чалавек, які хацеў стаць каралём», м/ф (ЗША, Вялікабрытанія).
23.25 Тэлешоў «50 x 50».

### Канал «Расея»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 Мульці-пульці.
7.45 Студыя «Рост».
8.15 Пілігрым.
9.00 Парляманцкі тыдзень.
9.45 Музыка ўсіх пакаленьняў.
10.15 Як жыць будзем?
11.00 «Асочнік», м/ф, с. 1.
12.10 Фартуна У.Ванеева.
12.40 Сялянскае пытаньне.
13.20 Дэ-факта.
13.35 «Эдэра», м/ф (Італія), с. 1.
14.30 Кліп-антракт.
14.35 «Вечаровы звон», д/ф.
15.35 Тэлеэрудыт.
15.40 Футбол бязь межаў.
16.25 Мультфільм «Айвэнга» (ЗША).
17.20 Сьвята штодня.
17.30 «Дзюба-дзюба», м/ф.
20.25 Тэлеэрудыт.
20.30 «Адзінокі кароль».
21.05 Зусім сакрэтна.
22.20 Аўтаміг.
22.25 Спартовая карусэль.
22.30 Праграма «А».
23.30 Зоркі гавораць.
23.35 «Люк», м/ф.

### Санкт-Пецярбург

9.00 Рэлігійная праграма.
9.30 «Зладзейскі гонар», м/ф (Францыя, Італія).
11.05 Мультфільм.
11.20 Ігар Скляр з гітарай і без...
11.50 «Погляд на Сьвятую Тройцу», д/ф.
12.30 Чароўная лінія.
12.45 Я і мой сабака.
13.00 Хуткая дапамога.
13.30 «Раньнія жураўлі», м/ф.
15.05 Л.Мінкус. «Дон Кіхот». Фрагмэнты з балету.
15.25 «Марыяна першая».
15.55 «Фэрмэры ў гарах», д/ф.
17.05 Студыя «Уяві».
17.15 «Антрэ». Цыркавая праграма.
17.35, 21.15 Уік-энд з дэтэктывам.
18.10 Экспрэс-кіно.
18.30, 21.30 Інфарм-TV.
18.50 Вершы С.Маршака выконвае Ігар Ільінскі.
19.10 Вялікі фэстываль.
19.30 «Жарсьці», м/ф.
21.05 «Вязень». Мультфільм.
21.50 Ваш стыль.
21.55 Адкрыцьцё Гульняў Добрай волі.
23.05 «Пад дахамі Манмартра», муз. фільм, с. 1.

### Канал НТВ

17.00 Мультфільм.
18.00 «Сёньня».
18.35 «Ключы ад форту Баярд». 34-ты вып.
20.00 «Шпікі-аматары экстра-клясы». 10-я сэрыя.
21.00 Надоечы.
21.45 Маст. фільм «Месца забойцы вакантнае».
23.20 Трэцяе вока.
0.05 Мультфільмы для дарослых.

### 8 канал

15.00 Мультсэрыял «Д'Артаньгаў і трое псоў-мушкецёраў».
15.30 Казаньнік Кенэт Копленд.
15.55 Забытае кіно?.. «Чалавек-амфібія».
17.25 Дак. фільм «Уступны іспыт у сямейнае жыцьцё».
17.50 Мультфільм «Парася Поркі».
18.20 СОЛТЭК: «Спартовая мазаіка».
18.50 Фірма «Кедбэры» і ММ4 прэзэнтуюць музычную праграму.
19.50 Пры сьвечках.
20.10 Маст. фільм «Дванаццаць крэслаў». 2-я сэрыя.
21.30 Студыя «БМ»: «Суботнія зоркі».
21.45 Сем хвілінаў з «Хрыстафорам».
22.00 Маст. фільм «Навочная стаўка» (Расея).

## Нядзеля, 9 кастрычніка

### Беларускае тэлебачаньне

8.00 Раніца Рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусьвету.
8.20 Пяць хвілін на жарты.
8.30 Слова да чалавека.
9.00 Справы вайсковыя.
9.45 Беларускі тур.
10.05 «Жоўлачкі ніндзя».
10.30 «Дым», с. 2.
11.45 Нядзельная казань.
12.00 Лекцыі здароўя.
12.35 «ABC-клюб» у Амэрыцы.
12.50 Дайнова-інвэст: «MTV. Найлепшыя хіты».
13.20 Аэробіка.
13.50 Кінаэкран-94.
15.05 Нядзельная тэлекавярня «Мая мама».
15.35 «Жоўлачкі ніндзя».
16.00 Праспэкт.
16.30 Спраўны весьнік.
16.45 «Гінэс-шоў».
17.15 «Песьнярам» — 25. Дабрачынны канцэрт у менскім Палацы спорту.
19.45 Тэлекрама.
20.00 Панарама.
20.35 Калыханка.
20.55 Пад купалам Сусьвету.
21.05 Пяць хвілін на жарты.
21.15 «Мільён Мадыгана», м/ф (Італія).
22.55 Кампутарны палігон.
23.10 «Каралеўскае паляваньне» на «Славянскім базары-94».

### Канал «Астанкіна»

7.15 Алімпійская раніца.
7.50 «Спортлято».
8.00 Маратон-15.
8.30 Раным-рана.
9.00 Палігон.
9.30 Пакуль усе дома.
10.00 Ранішняя зорка.
10.50 Пад знакам «пі».
11.40 «Казка пра дрэва», д/ф (Румынія).
12.20 Вагон 03.
12.50 «Шпаргалка» з падарункам.
13.00 «Падводная адысэя каманды Кусто».
13.50, 17.10, 22.50, 23.50 Навіны.
14.00 «Стратэгія Перамогі». Фільм 2-гі «Ад сьценаў Масквы».
14.55 Жывое дрэва рамёстваў.
15.00 Вакно ў Эўропу.
15.30 Валейбол. Чэмпіянат сьвету.
16.20 Клюб падарожнікаў.
17.20 Тэлелёцыя.
17.35 «Баскетбольная ліхаманка», «Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды».
18.35 Надвор'е.
18.40 Уся Расея. «Дзень добры!»
19.10 «Тэкс і ўладар глыбіняў», м/ф (Італія).
21.00 Нядзеля.
21.50 Спартовы ўік-энд.
22.10 Каханьне зь першага погляду.
23.00 Вакзал мары.

### Канал «Расея»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 «Як перастаць непакоіцца і пачаць жыць», д/ф.
7.45 Прадоўжанка.
8.15 Наш сад.
8.45 Вялікі хакей.
9.25 Добрай раніцы.
9.55 Аты-баты...
10.25 Рэпартажы з «Малой Эўропы».
10.55 «Асочнік», м/ф, с. 2.
12.10 Таямніца адной экспэдыцыі М.Рэрыха.
12.40 Сялянскае пытаньне.
13.20 Ня высечы...
13.35 «Эдэра», м/ф (Італія), с. 2.
14.35 Тэатар для ўсіх.
15.20 Мір і вайна.
15.50 Відзапаэзія.
16.00 Белая варона.
16.45 Мульці-пульці.
17.00 Чароўны сьвет Дыснэя.
17.55 Сьвята штодня.
18.05 Скрыня перадач.
18.20 У Ксюшы.
19.25 «Грошы, улада, забойства», м/ф (ЗША).
21.10, 22.30 Патрысія Каас у Расеі.
22.20 Аўтаміг.
22.25 Спартовая карусэль.
23.15 Зоркі гавораць.

### Санкт-Пецярбург

9.00 Канцэрт старадаўняй музыкі.
9.30 «Клемэнтына».
10.00 Мультфільм.
10.10 Экспрэс-кіно.
10.25 Нядзельная забава.
11.00 Нядзельны лябірынт.
12.30 Апэрацыя «Скрыпічны футляр», м/ф.
13.40 Этнасы Зямлі.
14.10 Опэра С.Рахманінава «Францэска да Рыміні».
15.30 «Сьвет мастацтва».
16.00 Залаты ключ.
16.10 Паказальныя выступы фігурыстаў на Гульнях Добрай волі.
17.45 Зэбра.
18.30 Шоў-праграма А.Буйнова.
19.30 Інфарм-TV.
19.55 «Закладніца», м/ф.
21.25 Ваш стыль.
21.35 Адам і Эва +.
22.05 «Пад дахамі Манмартра», муз. фільм, с. 2.

### Канал НТВ

17.00 Кінатэатар юнага гледача. «Ілья Мурамец».
18.40 Плянэта модаў.
19.00 «Шпікі-аматары экстра-клясы». 11-я сэрыя.
20.00 Вынікі.
21.10 Сьвет кіно. «Мілая Чэрыты».
23.45 Рэтра-TB: КВЗ-90.
1.30 НТВ прэзэнтуе: анонс тыдня.

### 8 канал

15.00 Мультсэрыял «Д'Артаньгаў і трое псоў-мушкецёраў».
15.30 Маст. фільм «Выратуй і ахавай».
18.20 СОЛТЭК: «ПІК».
18.50 Мультфільм «Парася Поркі».
19.30 Спорт-сакрэт.
19.55 Маст. фільм «Дасье чалавека ў «Мэрсэдэсе», 1-я сэрыя.
21.00 Студыя «БМ»: «Дайджэст».
21.20 Маст. фільм. «Дасье чалавека ў «Мэрсэдэсе». 2-я сэрыя.
22.20 Foxy music.



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 3.10.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 1414 © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая Наклад 50 000
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12